Выходзіць з 20 снежня 1945 года

# Настаўніцкая газета

№ 8 (5339)
Чацвер, 24 студзеня 2002 года

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ





## Прэзідэнт краіны правёў нараду з навукоўцамі

***Навука на Беларусі прызначана стаць адным з важнейшых інструментаў для рэалізацыі прыярытэтных напрамкаў Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны на 2001-2005 гады. Гэта запатрабуе канцэнтрацыі інтэлектуальнага патэнцыялу, матэрыяльных і фінансавых рэсурсаў, эфектыўнага механізма ўкаранення інавацый у вытворчасць. Каб навука стала дзейсным рычагом у рэалізацыі пастаўленых задач, патрэбны пераўтварэнні ў структуры яе кіравання. Навука павінна быць цэласнай і адзінай сістэмай у дзяржаве.***

Аб гэтым заявіў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка на нарадзе па ўдасканаленні кіравання навукай, якая адбылася 22 студзеня ў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі /НАН/. У ёй прынялі ўдзел Прэм'ер-міністр Генадзь Навіцкі, кіраўнікі міністэрстваў і ведамстваў рэспублікі, члены акадэміі, кіраўнікі ВНУ і галіновых інстытутаў Нацыянальнай акадэміі навук.

Павіншаваўшы вучоных з надыходзячым святам – Днём беларускай навукі, кіраўнік дзяржавы паведаміў, што падрыхтаваны ўжо праекты дакументаў, якія датычацца ўдасканалення дзяржаўнага кіравання ў галіне навукі. Але перш чым прымаць адказныя рашэнні, Прэзідэнт вырашыў яшчэ раз параіцца, выслухаць іх прапановы, самыя розныя думкі. Бо менавіта вучоным давядзецца рэалізоўваць гэтыя праграмныя дакументы. Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што ад іх у многім залежыць, якімі будуць праекты яго ўказаў і дэкрэтаў. І не выключана, што цікавыя думкі могуць стаць вырашальнымі пры прыняцці дакументаў. Кіраўнік дзяржавы заклікаў удзельнікаў нарады да адкрытай дыскусіі. У прыватнасці, яго цікавіла, якім яны бачаць парадак кіравання ў акадэміі, як рэструктурызацыя ў сферы навуковых устаноў, іх перападпарадкаванне адаб'ецца на дзейнасці навукі і яе эфектыўнасці, ці прынясе гэта чаканы вынік, як будзе арганізавана сістэма атэстацыі навуковых кадраў, якім чынам будуць размяркоўвацца фінансавыя сродкі.

Прэзідэнт Нацыянальнай акадэміі навук Міхаіл Мясніковіч, які выступіў на нарадзе з дакладам, адзначыў, што за апошнія тры месяцы распрацаваны комплекс мер па стварэнні такой навуковай арганізацыі, якая здольна працаваць эфектыўна. На гэта нацэлены і падрыхтаваныя праекты ўказаў Прэзідэнта, якія датычацца дзяржаўнай падтрымкі і ўдасканалення інавацыйнай дзейнасці, стымулявання працы работнікаў навуковых структур, арганізацыі іх работы, падрыхтоўкі навуковых кадраў, рэфармавання сістэмы розных сектараў навукі. На думку Міхаіла Мясніковіча, вучоныя хочуць быць карыснымі сваёй краіне, таму яны не абыякавыя да перамен. У прыватнасці, многіх удзельнікаў сустрэчы хвалюе, як будуць развівацца фундаментальныя навукі. У сувязі з гэтым кіраўнік дзяржавы падкрэсліў, што фундаментальным даследаванням будзе надавацца яшчэ большае значэнне, але мы адразу павінны вызначыцца, па якіх напрамках даследаванні неабходны ў першую чаргу, каб укладваць у іх грошы.

Тэма ўдасканалення дзяржаўнага кіравання ў сферы навукі была прадоўжана ў садакладзе старшыні Камітэта па навуцы пры Савеце Міністраў Анатоля Лесніковіча. Сярод прамоўцаў на нарадзе былі рэктар Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі Барыс Хрусталёў, Міністр аховы здароўя Уладзіслаў Астапенка, Прэзідэнт Акадэміі аграрных навук Віталь Антанюк і іншыя.

Сустрэча кіраўніка дзяржавы з прадстаўнікамі навуковых колаў краіны дала магчымасць зблізіць пазіцыі па падыходах, накіраваных на рэфармаванне беларускай навукі. Разам з тым праведзеная дыскусія, паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, не паставіла ў гэтым пытанні канчатковую кропку.

Падводзячы вынікі нарады, беларускі лідэр даручыў кіраўніку Адміністрацыі Прэзідэнта Уралу Латыпаву разам з Прэм'ер-міністрам Генадзем Навіцкім і Міхаілам Мясніковічам з улікам думак, якія прагучалі, да канца студзеня дапрацаваць праекты прапанаваных дакументаў. Ён падкрэсліў, што працэс рэфармавання навуковай сферы павінен быць завершаны на працягу паўгода, да з'езда вучоных, які плануецца ў чэрвені. Пры гэтым Аляксандр Лукашэнка заявіў, што Нацыянальная акадэмія навук не павінна стаць чарговай ведамаснай структурай. Ёй неабходна захаваць свае традыцыі і адносную незалежнасць. Мэта пераўтварэнняў у навуцы адна – стварэнне ўмоў для фарміравання навукаёмістага, высокатэхналагічнага сектара айчыннай эканомікі, які дасць магчымасць нашай краіне заняць дастойнае месца ў сусветным падзеле працы, адзначыў Прэзідэнт.

**Лілія КРАПІВІНА, Марта АСТРЭЙКА, БЕЛТА.**

НА ЗДЫМКУ: на нарадзе выступае Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка.

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БЕЛТА.**

## Патрыятызм - катэгорыя дзяржаўная

***"Патрыятычнае выхаванне як складовая частка дзяржаўнай ідэалогіі Рэспублікі Беларусь. Выхаванне моладзі ў духу грамадзянскасці, патрыятызму і гатоўнасці да вайсковай службы" - так вызначана праблематыка рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі, якую арганізавалі і правялі Міністэрства абароны, Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Беларускі патрыятычны саюз моладзі і Беларускае педагагічнае таварыства.***

У рабоце канферэнцыі прынялі ўдзел Міністр абароны Рэспублікі Беларусь, генерал-палкоўнік Леанід Мальцаў, Міністр адукацыі Рэспублікі Беларусь Пётр Брыгадзін, прадстаўнікі Міністэрства абароны і Міністрэства адукацыі, спецыялісты па выхаваўчай рабоце з моладдзю ва Узброеных Сілах, у сістэме адукацыі, прадстаўнікі маладзёжных і грамадскіх аб'яднанняў і арганізацый, ветэраны вайны і працы, спецыялісты ўстаноў адукацыі і інш.

Рэформа сістэмы адукацыі прадугледжвае на аснове структурных змяненняў і паляпшэння зместу навучання павысіць якасць усяго навучання, што само па сабе павінна прывесці да паляпшэння выхавання маладога пакалення. Але так не адбываецца таму, што прыярытэт ведаў парушае прынцып непарыўнасці навучання і выхавання – пытанні выхавання застаюцца на абочыне рэформы.

На з'ездзе настаўнікаў Беларусі Прэзідэнт А.Р.Лукашэнка адзначыў, што адукаваны чалавек – гэта першнаперш чалавек добра выхаваны.

Толькі прыярытэт выхавання над навучаннем дапаможа паспяхова вырашыць задачы рэформы сістэмы адукацыі. З такіх вось высноў і пачаў сваё выступленне на канферэнцыі рэктар Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М.Танка, доктар гістарычных навук Л.М.Ціханаў. Ён акцэнтаваў увагу прысутных на вызначэнні і напаўненні новым зместам такіх паняццяў як патрыятызм, грамадзянскасць, доўг.

Сёння наўрад ці можна згадзіцца з такім паняццем як нацыянальны патрыятызм. Патрыятызм – гэта катэгорыя не нацыянальная, а дзяржаўная. Патрыётамі павінны быць грамадзяне ўсёй Беларусі, а гэта не толькі яе карэнныя жыхары, але і рускія, украінцы, татары, яўрэі, палякі і інш.

Патрыятызм цесна спалучаецца з грамадзянскасцю, і іх нельга разглядаць паасобку. А патрыятычныя пачуцці беларусаў непарыўна звязаны з патрыятычнымі пачуццямі іншых славянскіх народаў, і ў прыватнасці – рускага народа.

Навучальныя ўстановы ўсіх узроўняў павінны стаць цэнтрамі патрыятычнага і грамадзянскага выхавання. І тут трэба выкарыстоўваць у поўнай меры выхаваўчы патэнцыял урокаў, лекцый, семінараў. Фарміраваць у моладзі палітычную культуру здольны высокапрафесійныя педагогі з дакладна акрэсленай патрыятычнай і грамадзянскай пазіцыяй. Вялікую ролю ў гэтай справе адыгрываюць нашы падручнікі па гісторыі. Апошнім часам назіралася гэўнае скажэнне яе, але цяпер выпраўляюцца дапушчаныя ў гэтай справе хібы. Аб'ектыўны погляд на гісторыю, выкарыстанне прыкладаў герaічных падзей дае свой плён.

Пачуццё патрыятызму непарыўна звязана з пачуццём абавязку (у прыватнасці, вайсковага) перад Радзімай. І гэтую маральную якасць неабходна фарміраваць у нашых юнакоў, нягледзячы на тое, што маладыя людзі сёння больш арыентуюцца на ўласнае жыццё, уласную маёмасць, уласныя грошы і да т.п. Мы жывем у свеце, які пастаянна мяняецца. У гэтым сэнсе свае асаблівасці маюць стасункі дзяржавы і рэлігіі. Рэлігія таксама мяняе сваё аблічча. Традыцыйная на нашай зямлі праваслаўная вера мае глыбокія маральныя і духоўныя традыцыі. Трэба разумна выкарыстоўваць яе.

Аб тым, як вырашаюцца пытанні патрыятычнага выхавання вучнёўскай моладзі ў практыцы работы ўстаноў адукацыі і якія праблемы перашкаджаюць паляпшаць гэту справу, расказаў начальнік Галоўнага ўпраўлення сацыяльнай і выхаваўчай работы Міністэрства адукацыі Г.А.Бутрым. У прыватнасці, ён адзначыў, што Міністэрства адукацыі і Міністэрства абароны распрацавалі і ў 1998 годзе прынялі Рэспубліканскую канцэпцыю (праграму) па патрыятычнаму выхаванню моладзі. Яе асноўныя палажэнні актуальныя і сёння. Аднак у сувязі з новымі патрабаваннямі часу неабходна дапрацаваць і ў нейкай ступені абнавіць праграму падрыхтоўкі моладзі да службы ў арміі, палажэнне аб ваенна-патрыятычных клубах і лагерах, звярнуць увагу на фінансаванне кіраўнікоў краязнаўчых музеяў і музеяў баявой славы нашага народа.

У гэтым кантэксце аб ролі і месцы Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь гаварыў начальнік упраўлення маральна-псіхалагічнага забеспячэння Міністэрства абароны У.А.Сераштан. З дзейнасцю грамадскага аб'яднання "Беларускі патрятычны саюз моладзі" па фарміраванню грамадзянскасці і патрыятызму ўдзельнікаў канферэнцыі пазнаёміў першы сакратар Цэнтральнага камітэма БПСМ Ю.В.Салаўёў.

Работа канферэнцыі працягвалася ў сямі секцыях, на якіх былі выпрацаваны канкрэтныя прапановы. Прыняты таксама рэкамендацыі, у якіх вызначаны і дакладна акрэслены шляхі вырашэння актуальных праблем патрыятычнага выхавання моладзі.

**Ірына АСТАПАВА.**

## Назначэнні

**ШЧУРОК Іван Антонавіч, начальнік упраўлення адукацыі і па справах моладзі Віцебскага аблвыканкама**

Іван Антонавіч Шчурок нарадзіўся 17 студзеня 1949 года ў пасёлку Крупскім Крупскага раёна Мінскай вобласці. Працоўную дзейнасць пачаў у 1966 годзе рабочым. З 1968 па 1971 год праходзіў службу на Чарнаморскім флоце. У 1971 годзе паступіў у БДУ, пасля заканчэння якога яму прысвоена кваліфікацыя выкладчыка гісторыі і грамадазнаўства. З 1974 па 1976 год працаваў выкладчыкам у навучальных установах Верхнядзвінскага раёна. З 1976 па 1998 год – на розных пасадах у партыйных, дзяржаўных і прафсаюзных органах вобласці. У 1998 годзе назначаны намеснікам старшыні абласнога выканаўчага камітэта, з 21.01.2002 года працуе на пасадзе начальніка ўпраўлення адукацыі і па справах моладзі Віцебскага аблвыканкама.

Жанаты. У сям'і – двое сыноў.

Навіны

## Студэнтам павышаны стыпендыі

***Прыемная навіна для навучэнскай моладзі прыйшла з Урада рэспублікі.***

Пастановай Савета Міністраў на трэць павялічаны памеры ўсіх відаў дзяржаўных стыпендый.

Гэтае павышэнне датычыцца і спецыяльных стыпендый.

Кіраўнікам вышэйшых, сярэдніх спецыяльных і прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў даручана правесці адпаведны пераразлік.

## Дзень ліцэя

***Дзесяць гадоў спаўняецца Нацыянальнаму дзяржаўнаму гуманітарнаму ліцэю імя Якуба Коласа.***

З гэтай нагоды 15 студзеня ва ўстанове адбыўся Дзень адкрытых дзвярэй. Ліцэй – адна з нешматлікіх устаноў, дзе навучанне вядзецца цалкам па-беларуску. Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй быў утвораны па ініцыятыве прадстаўнікоў навуковай і творчай інтэлігенцыі Беларусі ў верасні 1990 года. 15 студзеня 1992 года навучальная ўстанова атрымала будынак па вуліцы Карла Маркса, 21 – і гэты дзень было вырашана надалей святкаваць як Дзень ліцэя.

## Юбілей школы

***140 гадоў таму ў вёсцы Парэчча на тэрыторыі сучаснага Акцябрскага раёна Гомельскай вобласці была адкрыта школа.***

У той час яна прызначалася галоўным чынам для тых дзяцей сялян, якія выйшлі з прыгоннай залежнасці. У 1933 годзе школа стала сямігадовай, а яшчэ праз тры дзесяткі гадоў набыла статус сярэдняй агульнаадукацыйнай.

Тут узведзены і сучасны трохпавярховы будынак. Адсюль выйшла шмат маладых людзей, якія засталіся ў роднай вёсцы, працуюць спецыялістамі альбо рабочымі саўгаса "Парэчча".

Школа сёння – адна з лепшых у Акцябрскім раёне, тут падабраўся і старанна працуе добры педагагічны калектыў.

**Казімір ЮРОЙЦЬ.**

## ...Грамадзянінам быць абавязаны

***На чарговым пасяджэнні прэзідыума Рэспубліканскага савета Беларускага педагагічнага таварыства дамінавала тэма, якая асабліва актуальная ў наш час - выхаванне вучнёўскай і студэнцкай моладзі.***

Яго вёў старшыня Беларускага педагагічнага таварыства, рэктар БДПУ імя М.Танка, доктар гістарычных навук, прафесар Леанід Ціханаў.

Акрамя членаў прэзідыума, тут прысутнічала шмат прадстаўнікоў педагагічнай грамадскасці (кіраўнікі і выкладчыкі сярэдніх навучальных устаноў, загадчыкі шэрагу кафедраў ВНУ, супрацоўнікі педагагічнай перыёдыкі).

Загадчык кафедры агульнай педагогікі Беларускага педагагічнага універсітэта імя М.Танка, доктар педагагічных навук Іван Цыркун выступіў з грунтоўным паведамленнем адносна праблем навукова-метадычнага забеспячэння патрыятычнага выхавання моладзі. Напрыклад, слушная думка Івана Іванавіча наконт таго, што эфектыўным сродкам патрыятычнага выхавання з'яўляюцца не толькі пазашкольныя мерапрыемствы гэтага кшталту, але і ўрокі гісторыі, геаграфіі, літаратуры, грамадазнаўства.

Зразумела, што актуальнасць гэтага пытання вымагала разгорнутай і дакладнай пастановы.

Справе выхавання грамадзянскасці і патрыятызму павінна паслужыць, напрыклад, арганізацыя ў ВНУ, тэхнікумах педагагічнага профілю спецкурсаў менавіта такога кірунку. Да распрацоўкі і іх чытання павінны быць прыцягнуты асабліва кваліфікаваныя педагогі-вучоныя і практыкі.

У пастанове звернута ўвага на неабходнасць стварэння на кафедрах педагагічных дысцыплін ВНУ творчых груп па распрацоўцы сучаснай методыкі патрыятычнага выхавання ў вышэйшых навучальных установах, сярэдніх школах, ПТВ і ССНУ.

Шэраг канкрэтных прапаноў выказаны ў адрас філасофска-грамадазнаўчых кафедраў, педагагічнай перыёдыкі і наогул сродкаў масавай інфармацыі.

У бліжэйшы час намечана правядзенне Рэспубліканскага савета, на якім пойдзе размова пра сучаснага педагога як праваднікa дзяржаўнай ідэалогіі.

Сугучным першаму пытанню было і другое. Начальнік аддзела Упраўлення маральна-псіхалагічнага забеспячэння Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь падпалкоўнік Мікалай Раманюк расказаў аб сумеснай рабоце з Міністэрствам адукацыі і Беларускім патрыятычным саюзам моладзі па правядзенні рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі "Патрыятычнае выхаванне як састаўная частка дзяржаўнай ідэалогіі Рэспублікі Беларусь. Выхаванне ў духу грамадзянскасці, патрыятызму і гатоўнасці да вайсковай службы."

На гэтым пасяджэнні быў абмеркаваны і зацверджаны сёлетні план работы Рэспубліканскага савета Беларускага педагагічнага таварыства.

**Уладзімір НОВІК.**

## Як рашыць прыклад: 5163×9?

### Цікавую мадэль ведаюць вучні 181-й школы сталіцы

***181-я сталічная школа на тыдзень ператварылася ў навучальную пляцоўку для настаўнікаў, якія ўжо працуюць або толькі пачынаюць працаваць па тэхналогіі развіццёвага навучання (сістэма Эльконіна-Давыдава). У школе праходзіць рэспубліканскі семінар-практыкум па гэтай сістэме.***

"Калі мы шэсць гадоў таму вырашылі займацца па сістэме развіццёвага навучання Эльконіна-Давыдава, дык першапачаткова за мэту ставілі падтрыманне натуральнага імкнення дзіцяці да ўдасканалення і гармоніі. Настаўнікі, якія працуюць у развіццёвых класах, накіраваны ў сваёй дзейнасці на стварэнне спрыяльных умоў для самавыражэння і самарэалізацыі", – у сваім выступленні перад настаўнікамі падкрэсліла дырэктар сярэдняй школы №181 Людміла Нікіфараўна Белавусава. Укараненне сістэмы пачалося з пачатковай школы, другі год ідзе эксперымент па развіццёвым навучанні ў сярэдніх класах (2000-2001 навучальны год з'яўляўся падрыхтоўчым этапам, 2001-2002 –ажыццяўляецца комплексна-мэтавая праграма эксперыменту). У рамках гэтай сістэмы ў школе вядуцца чатыры прадметы – беларуская і руская мовы, матэматыка, гісторыя.

181-я школа была абрана не выпадкова. Вопытныя настаўнікі ўжо маюць што паказаць іншым. Семінар прадугледжвае наведванне яго ўдзельнікамі шэрагу адкрытых урокаў па матэматыцы, гісторыі, рускай і беларускай мовах, якія пабудаваны па схеме развіццёвага навучання. Далей – абмеркаванне наведаных урокаў, потым складанне свайго праекта ўрока і замацаванне на практыцы – спроба самастойна правесці такі ўрок.

Як гаварылася вышэй, развіццёвае навучанне ў 181-й школе пачынаецца ў пачатковым звяне. Паводле слоў дырэктара, падчас урокаў дзеці паводзяць сябе вельмі спакойна, і вялікая колькасць гасцей на занятках нікольк і ім не замінае. Шчыра кажучы, верылася з цяжкасцю, але, наведаўшы такі ўрок, упэўнілася, як кажуць, на ўласныя вочы.

Урок матэматыкі ў 2 "Б" клас прайшоў у звычайным працоўным рэжыме, хоць так званых гасцей (настаўнікаў-практыкантаў) было шмат і кожны з іх вельмі пільна сачыў за настаўніцай І.Г.Краснапёравай ды яе вучнямі. А яны вучыліся памнажаць мнагазначны лік на адназначны. Клас быў падзелены на тры групы па 5-6 чалавек, кожная з якіх сядзела асобна за сваім сталом. Не было ніякага тлумачэння новага матэрыялу. Дзеці самі (канешне, не без дапамогі настаўніцы) выводзілі тэарэтычныя выкладкі з дапамогай лагічна створанай схемы. Усё пачалося з агульнага пытання: "Калі б да нас прыйшоў хлопчык з іншага класа, змог бы ён рашыць такі прыклад: 5163х9? Што яму неабходна ведаць?" Безумоўна, табліцы множання і складання. А каб хлопчык пры рашэнні не нарабіў памылак і навучыўся правільна рашаць такія прыклады, дзеці склалі паэтапны план дзеянняў пры рашэнні прыкладаў з памнажэннем адназначнага ліку на мнагазначны. Намаганнямі ўсіх трох груп была складзена агульная мадэль рашэння прыкладаў. Потым была індывідуальная праца ў кожнай групе, рашэнне новых задач.

Падчас урока заўважыла, што дзеці даволі лёгка аперыруюць спецыяльнымі тэрмінамі, могуць хутка, правільна і лагічна выкласці сваю думку. Сярод вучняў усталяваліся ўзаемавыручка і ўзаемадапамога.

Цікава было паназіраць і за настаўнікамі, што прысутнічалі на ўроку, падчас якога яны старанна ўсё занатоўвалі ў свае канспекты, чым самі нагадвалі тых жа вучняў.

Пры абмеркаванні наведаных урокаў было адзначана шмат станоўчага ў развіццёвым навучанні. Але самае галоўнае, што ў вучня выпрацоўваецца славесна-лагічнае мысленне, у той час як, напрыклад, у так званай традыцыйнай школе акцэнт робіцца на развіццё памяці. Сістэма Эльконіна-Давыдава з'яўляецца альтэрнатыўнай традыцыйнаму навучанню.

Тое, што яна ёсць крок наперад у школьным навучальным працэсе, прызналі ўсе прысутныя настаўнікі. Але пагадзіліся і з тым, што каб падрыхтавацца да развіццёвага ўрока, патрабуецца шмат часу, якога і так не хапае з-за перагрузкі. Акрамя таго, далёка не кожны настаўнік мае магчымасць карыстацца ў сваёй працы камп'ютэрам і ксераксам. Тым не менш прыхільнікаў згаданай сістэмы становіцца ўсё больш і больш, з чаго вынікае, што ў нашых вучняў паяўляецца ўсё больш і больш перспектыў дамагчыся аптымальнага выніку падчас вучобы ў школе.

**Вольга ДУБОЎСКАЯ.**

Весткі

## Тут гучыць літоўская мова

***Пайшоў дзесяты год, як у вёсцы Пеляса Воранаўскага раёна стала працаваць літоўская недзяржаўная школа. Яна была першай у краіне ўстановай адукацыі для дзяцей нацыянальных меншасцей.***

***Навучанне пачалося адразу ў некалькіх пачатковых класах, вучні якіх да гэтага набывалі веды ў Літоўскім доме ў Вільнюсе.***

***У школе ўжо адбыліся два выпускі. Яе выпускнікі зараз вучацца ў Віленскім педагагічным універсітэце.***

### Ушанавалі вучонага-земляка

Не толькі настаўнікаў і вучняў, а і сялян з навакольных вёсак, дзе кампактна пражываюць літоўцы, сабрала вечарына ў гонар выдатнага вучонага-арнітолага Літвы Тадаса Іванаўскаса (Тадэвуша Іваноўскага). Нарадзіўся ён у маёнтку Лябёдка, што знаходзіцца каля недалёкіх адсюль Васілішак. Успамінамі аб сустрэчы са знакамітым земляком падзяліліся жыхарка Пелясы Марыя Крапеня, ураджэнец суседняй вёскі Дубінцы, былы віцэ-прэзідэнт Літоўскага фонду культуры Ізідорас Шымелёніс і іншыя.

Выступоўцы расказалі і пра навуковую дзейнасць Т.Іванаўскаса. Увазе прысутных былі прапанаваны відэафільм аб наведанні вучнямі Лябёдкі сям'і Іваноўскіх, фотавыстава пра яе.

– Мы ганарымся, што ў нас, на малой радзіме Тадаса Іванаўскаса, дадзены старт урачыстасцям, прысвечаным 120-м угодкам выдатнага вучонага і чалавека, – гаворыць дырэктар школы Альфонсас Швяльніс. – Гадавіна ж гэтая будзе шырока адзначана па ўсёй Літве.

### Юныя кніганошы

Калектыў школы як мага спрыяе нацыянальнаму адраджэнню мясцовых літоўцаў. Так, кожны тыдзень старшакласнікі адпраўляюцца ў навакольныя вёскі да суродзічаў з пачэсным даручэннем. Яны дастаўляюць сялянам мастацкую літаратуру, прывезеныя з Вільнюса газеты і часопісы на літоўскай мове.

Асабліва рады такім візітам пенсіянеры, нямоглыя людзі. Накіроўвае дзейнасць юных распаўсюджвальнікаў кніг і перыядычнага друку настаўніца Жывіле Дайнене.

### Расказвае музей

Вось ужо колькі гадоў у школе працуе краязнаўчы музей. Тут захоўваецца багаты інфарматыўны матэрыял аб адкрыцці ў Пелясе ў пачатку XX стагоддзя літоўскай школы, нелегальным навучанні роднай мове ў міжваенны перыяд, калі Заходняя Беларусь была ў складзе польскай дзяржавы, пра жыццё, побыт і традыцыі тутэйшых літоўцаў.

Многае робяць для папаўнення фондаў музея настаўнікі і асабліва ініцыятар яго стварэння Антаніна Чэсанене.

### Памятныя дошкі сведчаць

Шмат намаганняў, маральных і матэрыяльных выдаткаў уклалі дзеля таго, каб пабудаваць і адкрыць у Пелясе літоўскую школу, доктар філасофіі з Вільнюса Дарыюс Куоліс, згаданы раней Ізідорас Шымелёніс, яго сын, архітэктар па прафесіі, Саўлюс. Дабрачынныя справы гэтых людзей засведчаны на мемарыяльнай дошцы, што адкрыта нядаўна на будынку школы.

Падобны знак з'явіўся і на будынку размешчанага побач касцёла. У гонар тых людзей, якія ў гады ваяўнічага атэізму выступалі за перадачу вернікам і аднаўленне храма, што быў прыстасаваны пад калгасны склад. І святая справа перамагла.

**Аляксандр ЖАЛКОЎСКІ.**



Віталій Аляксандравіч Раузо — загадчык харавога аддзялення школы мастацтваў №1 Віцебска. Яго добра ведаюць не толькі ў абласным цэнтры, але і ва ўсёй рэспубліцы. Вось ужо 10 гадоў ён — кіраўнік народнага гарадскога маладзёжнага хору.

Хор пад яго кіраўніцтвам выступаў у многіх гарадах Германіі і Польшчы.

Віталій Аляксандравіч — лаўрэат гарадской прэміі творчай інтэлігенцыі "Сузор'е муз".

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА.**

Выставы

# Рушчыц вяртаецца

***Нядаўна прыемны падарунак падрыхтавала Беларуская акадэмія выяўленчага мастацтва жыхарам Валожынскага раёна Мінскай вобласці.***

***У раённым музеі адкрылася выстава ўдзельнікаў Міжнароднага пленэра "Неба і зямля Фердынанда".***

Мінула 65 гадоў з той пары, як не стала Фердынанда Рушчыца, педагога, жывапісца, графіка. І вось зараз яго імя зноў вярнулася на Валожыншчыну. Безумоўна, для гэтага шмат сіл, творчых і арганізацыйных намаганняў, пры непасрэднай падтрымцы старшыні Валожынскага райвыканкама Валянціна Малішэўскага і загадчыка аддзела культуры Сяргея Шаблыкі, прыклаў прэзідэнт Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва Фелікс Янушкевіч.

– Задумы ў акадэмікаў даволі сур'ёзныя, – зазначыў ён на адкрыцці выставы.

У Багданаве плануецца будаўніцтва Міжнароднага цэнтра мастацтваў імя Фердынанда Рушчыца (гэта і музей–сядзіба, і выставачная галерэя, і дзіцячая студыя выяўленчага мастацтва, і майстэрні мастакоў).

– Наш край вельмі прыгожы, тут нават яблыкі нейкія асаблівыя, не гаворачы пра людзей, – гэтак шчыра прызнаваліся ў любові да зямлі Валожынскай на вернісажы заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь, прафесар, акадэмік жывапісу Анатоль Бараноўскі і акадэмік графікі Уладзімір Вішнеўскі.

Творы беларускіх і польскіх мастакоў розных пакаленняў прадстаўлены ў экспазіцыі. Роднае і да болю знаёмае ў палотнах А.Бараноўскага "Касцёл у Вішневе", Л.Шчымялёва "Свята ў Вішневе".

Глыбокі філасофскі роздум – у працах Ф.Янушкевіча "Галінка палыну" і Г.Скрыпнічэнкі "Ланцуг жорсткасці".

І як бы вітае ўсіх наведвальнікаў музея бронзавая скульптура В.Янушкевіча "Фердынанд Рушчыц".

Нельга абысці ўвагай і работы польскіх мастакоў. Так, жывапісец з Варшавы Т.Міляноўскі прадставіў свой твор "Ворыва", а прафесар, жывапісец польскай Акадэміі выяўленчага мастацтва К.Ваховяк – "Дождж".

Частка створаных прац, як было адзначана на вернісажы, знойдзе пачэснае месца ў музеі.

Што ж, выдатныя творы, прасякнутыя агульначалавечымі гуманістычнымі ідэаламі, павінны належаць і землякам выдатнага беларускага мастака Фердынанда Рушчыца.

**Казімір ЮРОЙЦЬ.**

Падзея

# *Прагучаў запавет*

***Нядаўна ў сталіцы, у Дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, адбылася вечарына, прысвечаная 85-годдзю з дня нараджэння вядомага беларускага пісьменніка Міхася Калачынскага.***

Кароткім уступным словам вечарыну адкрыў намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Навум Гальпяровіч. Вершы М.Калачынскага прагучалі ў выкананні загадчыка літаратурнай часткі тэатра "Вольная сцэна" Івана Чэркаса і юнага чытальніка Глеба Наўмака.

Міхась Калачынскі прайшоў багатае на падзеі жыццё.

Ён быў галоўным рэдактарам альманаха "Советская Отчизна", адказным сакратаром Праўлення Саюза пісьменнікаў, узначальваў часопіс "Беларусь".

Аўтар шматлікіх паэтычных кніг для дарослых і для дзяцей. Творы пісьменніка выдаваліся на польскай, англійскай, балгарскай, грузінскай і іншых мовах. На вершы М.Калачынскага многія кампазітары напісалі песні.

Успамінамі пра пісьменніка падзяліліся прэзідэнт міжнароднага фонду "Беларускі кнігазбор", галоўны рэдактар выдавецтва "Беллітфонд" паэт і навуковец Кастусь Цвірка, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, галоўны рэдактар часопіса "Маладосць" Генрых Далідовіч, член–карэспандэнт НАН, доктар філасофскіх навук паэт Леанід Яўменаў, пісьменнікі Мікола Гроднеў, Казімір Камейша.

Цёпла сустрэлі прысутныя выступленні землякоў М.Калачынскага з Крупак, якіх прадставіла дырэктар Крупскага гісторыка–краязнаўчага музея Таццяна Белая, і вакальнага дуэта ў складзе Таццяны Шкадзінскай і Наталлі Стахоўскай. На завяршэнне слова ўзяла дачка Міхася Іванавіча Ларыса Міхайлаўна. Яна расказала пра апошнія дні бацькі, прачытала яго верш "Запавет", які ён напісаў перад самай смерцю. Паэт застаўся верны да канца сваім ідэалам, любові да роднай Бацькаўшчыны, роднага слова.

І тое, што сённяшняе маладое пакаленне (а ў зале былі ў асноўным школьнікі) далучылася да жыцця і творчасці паэта–франтавіка, засведчыла, што гэты запавет знайшоў удзячны водгук.

**Нічыпар ЧАРНЫШ.**

# Ліра пад капытом Пегаса

## Уладзімір НОВІК

### Наўздагон аўтапартрэту

*Я гумарыст, а сам дзівлюся,*
*Што мне чамусьці не да смеху...*
*Прызнацца шчыра не баюся:*
*Скрозь слёзы горкія смяюся.*
***Павел САКОВІЧ.***

Я бізнесмен, а сам дзўлюся,
Што мне чамусьці не да смеху...
Прызнацца шчыра не баюся:
Кішэнь – суцэльная прарэха.

Я доктар, ну а сам дзіўлюся,
Што я набыў хваробаў столькі...
Прызнацца, я шпрыца баюся:
Як чорт крыжа, так я іголкі.

Мастачу я. І так дзіўлюся,
Што знаны толькі ў мястэчку.
Прызнацца шчыра не баюся:
Я – Рафаэль. Другі, канешне.

Я парадыст. І дбаю, пнуся,
Каб быў паэт у акрузе слынным...
Прызнацца шчыра, не баюся:
Праслаўлю – а паэт нявінны.
Дагэтуль я з таго дзіўлюся,
Што Ойча не абмінуў чашай...
А хто я? Аж сказаць баюся:
Саковіч толькі.
Ды шчэ Паша...

### Каханне пад ліўнем

*Хай дзень задоўжыцца –*
*І спыніцца імгненне,*
*Калі пад дожджыкам*
*Каханне – на каленях*
*Я адчуваю, быццам незямная,*
*Я – лепшая з тутэйшых маладзіц...*
*...Хай толькі хто не стане*
*на калена*
*Перад такой багіняй незямной.*
***Вера БУЛАНДА***

Я адчуваю, быццам незямная,
Я – лепшая з тутэйшых маладзіц.
О, любы, ты кахання не зазнаеш,
Калі не ўпадзеш прада мною ніц.

Падумаеш, у джынсах ён навюткіх,
І дождж ліе, нібы з вядра якраз.
Усё ж на калені, любы,
чуеш – хутка!
Хай не бянтэжыць цябе
лівень, гразь.

З верандачкі матуля наглядае
За сцэнаю:
– Схацела ты дубца!
Ў каго ў нас удалася ты такая?
Кліч Яся ў хату.
Пашкадуй хлапца!

### Я, Андрэй, - за ўсіх мудрэй!

*Я – гэта ты,*
*Але ты – гэта не я:*
*Ты – нехта,*
*А я – гэта я...*
*.......................................*
*І лямпа пагасла, і зніціўся ты.*
*Адзін сярод шалу глушы й*
*цемнаты*
*І знікла ўсё раптам,*
*абрынуўся лад...*
*Ты бачыш усё! Але ты ўжо – вар'ят.*
*.......................................*
*У працілегласці Тваёй*
*За што так вылуплены вочы?*
***Андрэй ГУЦАЎ.***

Ты, Цімох, з'ясі за трох.
Ты, Алесь, у кніжках увесь.
Ніцшэ, Шпенглер, Шапенгаўэр,
Ды Энштэйн і Люксембург.
Рыга, фіга, Лондан–Таўэр,
Заратустра, Дэміург.

Ты, вядома, не дурніца.
Атабарыўся ў "Крыніцы"
Хоць і зніціўся на ніт –
Ў свет пусціў усё ж "Бум–Бам–Літ",
Што да йгрышчаў так ахвочы.
Зладзіць штось –
Аж лезуць вочы.

Расшыфроўвай мае вершы –
Сярод роўных будзеш першы.
Знойдзеш думку, пекны склад.
Скажаш:
"Аўтар мне як брат,
Бо разумнік, бы Спіноза,
Ну й паэзія, ну й проза!
Як па ім ямб і харэй,
Зацугляе рыфму ўраз"
... Я, Андрэй, – за ўсіх мудрэй
Я – ёсць Я!
Такі мой сказ.

### Даяр-званар

*...Нібы неба пярэстае доіць –*
*За вяроўкі цягае званар.*
***Міхась СКОБЛА.***

Гэта ж трэба, надоечы хлопец
Уздумаў неба, кашчунны, даіць...
І замест малака (ну, хоць кроплі)
Дождж звычайны пачаў з неба ліць.
Не цягай ты дарма за вяроўкі,
Не даўмеўся ты, мніх малады,
Што хмурынкі табе не кароўкі,
З іх дастанеш адно што – вады.

### Вазьмі тайм-аўт

*І хоць "Рамэа і Джульету"*
*Шэкспір вялікі напісаў,*
*У нас свой век, свае паэты...*
***Леанід ГАЛУБОВІЧ.***

У нас свой век, свае паэты.
Вось я – Лявоне, далібог
Бяруся напісаць санеты –
Шэкспір такія толькі б змог.

А разыдуся, дык, паверце,
Такога, людцы, натвару...
Было калісь Апалінеру
Пад сілу толькі.
Закуру.

Бы ў Лань, у творчасць
З галавою.
Трымайся, слынныя, цяпер!
Далі і сам Франсіска Гойя,
І ты, шаноўны Жак Прэвер.

Пішу, пішу...
Няма спачыну,
Здаецца, аж лячу да зор.
– Вазьмі тайм–аўт хоць на гадзіну,
Хрышчоны раіць мне, – Рыгор.

А лепш, Лявоне, на мой розум
(Імпэту век табе стае),
Ты перайдзі пакуль на прозу –
Дапісвай "Зацемкі..." свае.

А вы ведаеце?

# Птушкі бацькаўшчыны і свету

З якой хуткасцю і на якой вышыні – зімаваць...

Хуткасць пералёту птушак вызначаецца звычайна двума метадамі: кальцаваннем і штучным перамяшчэннем. Акальцаваныя птушкі паказалі такую хуткасць (першая лічба абазначае адлегласць, другая – сярэднюю хуткасць за суткі):

1) крыжанка – 890 і 445;
2) звычайная каменка – 800 і 800;
3) танкадзюбы буравеснік – 10000 і 190;
4) амерыканскі бакасападобны вераценнік – 3700 і 185;
5) палярная крыжанка – 1400 і 123.

А вось такія паказчыкі ў птушак, што былі перавезены ў іншыя месцы:

1) хатні голуб – 1620 і 1080;
2) звычайны буравеснік – 5300 і 420;
3) серабрыстая чайка – 1400 і 340;
4) чарнаспінны альбатрос – 5150 і 510.

Цікавыя параўнанні сярэдніх хуткасцей руху пералётных птушак. Аказваецца, што хуткасць можа вельмі значна вар'іравацца ў аднаго віду ў залежнасці ад таго, над якой мясцовасцю ляціць птушка – ляціць яна ў чарадзе ці адна (рух у чарадзе хутчэйшы!).

Высокія хуткасці палёту – 96 кіламетраў у гадзіну – былі адзначаны ў крыжаванак і некаторых драпежных. А вось якія хуткасці ў іншых птушак:

1) шэры журавель – 100;
2) галка – 91;
3) шпак – 78;
4) чыж – 51 кіламетр у гадзіну.

* * *

Вышыня палёту значна вар'іруецца ў залежнасці ад араграфічных і атмасферных умоў. Шмат якія віды ляцяць так высока, што іх нельга разгледзець няўзброеным вокам. Як было выяўлена з дапамогай радыёлакацыі, птушкі ляцелі на вышыні да 3,7 кіламетра, а над горнымі пераваламі – яшчэ вышэй.

Сярэдняя вышыня руху большасці пералётных птушак 1100–1600 метраў над узроўнем мора, але многія з іх часта ляцяць на вышыні ўсяго 100–130 метраў. Ноччу пералёт праходзіць на больш вышынях, чым днём, а вясной – на большых, чым восенню.

1) Кнігаўкі часта ляцяць на вышыні 2000 метраў, але іх сустракалі і на ўзроўні каля 3300 метраў.

2) Вехіраў заўважалі на вышыні 2400, качак – 2700, гракоў – 3600 метраў.

3) Самыя буйныя птушкі – шэрыя жураўлі – былі выяўлены на вышыні да 5000 метраў, а вераб'іныя – у многіх выпадках на вышыні 4000–6000 метраў, рэдка – 8000 метраў.

Гэтыя радыёлакацыйныя даныя атрыманы ў раўнінных раёнах, а над гарамі птушкі ўзнімаюцца яшчэ вышэй, над Гімалаямі – да 6000 метраў. А гусей бачылі на вышыні 8330 метраў.

І той факт, што вераб'іныя могуць пераляцаць на вышыні ад 0,5 метра над морам да 7000 метраў над гарамі, пераканаўча дэманструе вялізную зменлівасць і складанасць характару пералётных птушак.

# Загадка вярблюда

Здольнасць вярблюда доўгі час абыходзіцца без вады здзіўляе многіх. А сакрэт доўгацярпення "карабля пустыні" заключаецца ў надзвычай развітай слізістай абалонцы носа.

Яе плошча складае 1000 квадратных сантыметраў, у той час як у чалавека ўсяго 12. Гэта дазваляе жывёліне ўлоўліваць да 70 працэнтаў вільгаці, якая знаходзіцца ў навакольным асяроддзі. Прычым гэты прыродны фільтр абсарбіруе вільгаць не толькі пры ўдыху, але і пры выдыху.

# Якім быў Вялікі ледавік

Жыхарам нашай планеты XXI стагоддзя нават цяжка ўявіць, які гіганцкі быў ледавік, што ўтварыўся ў паўночным паўшар'і ў працэсе апошняга абледзянення зямлі. Сваімі памерамі ён пераўзыходзіў лядовы шчыт Антарктыды. Агульная плошча ўсёй паверхні ледавіка дасягала 36 мільёнаў квадратных кіламетраў (гэта значна больш, чым тэрыторыя СНД).

Ледавік утвараў велізарныя хрыбты даўжынёю пяць–шэсць тысяч кіламетраў. Вышыня асобных лядовых гор дасягала трох з паловаю тысяч метраў, сярэдняя таўшчыня лёду – больш як паўтара кіламетра. А, напрыклад, на месцы Санкт–Пецярбурга ляжаў лёд таўшчынёю ў два з паловаю кіламетры. Агульны ж аб'ём лёду вызначаны ў 60 мільёнаў кубічных кіламетраў. Гэты гіганцкі пласт з такой сілай ціснуў на зямлю, што ад уласнай вагі апускаўся ніжэй узроўню мора.

Калі ледавік растаў, узровень Сусветнага акіяна паступова павысіўся на 120–130 метраў, ад чаго пад вадою апынуліся вялікія плошчы сучаснага кантынентальнага шэльфа.

Да XXI стагоддзя ад Вялікага паўночнага ледавіка засталіся толькі "ўспаміны" ў выглядзе мацерыковага лёду Грэнландыі і іншых палярных астравоў.

**Кастусь КАРНЯЛЮК.**

# Рэспубліканскі конкурс *"Юны праграміст"*

***Міністэрства адукацыі і Галоўны інфармацыйна-аналітычны цэнтр Міністэрства адукацыі праводзяць чарговы конкурс "Юны праграміст" на лепшыя распрацоўкі праграмных сродкаў (ПС) і Web-старонак, створаных навучэнцамі агульнаадукацыйных школ, ліцэяў, гімназій.***

**Мэты конкурсу:**

- уцягненне настаўнікаў у пошукава–творчы рэжым работы на ўроках інфарматыкі і ў пазаўрочны час з навучэнцамі, якія найбольш паспяхова вывучаюць асновы інфарматыкі;
- садзеянне абмену ідэямі, вопытам распрацоўкі праграм, Web–старонак і іх выкарыстання;
- садзеянне павышэнню кваліфікацыі распрацоўшчыкаў, карыстальнікаў і настаўнікаў–практыкаў;
- стварэнне банка праграм.

Конкурс праводзіцца сярод індывідуальных і калектыўных распрацовак па наступных тэматычных накірунках:

1. Лепшая Web–старонка аб сваёй школе, горадзе і інш. (патрэбна ўказаць адрас старонкі);
2. Лепшая навучальная праграма;
3. Лепшы інструментальны сродак для распрацоўкі праграм педагагічнага прызначэння;
4. Лепшая тэсціруючая праграма;
5. Лепшая мадэлюючая праграма;
6. Лепшая развіваючая, гульнявая праграма.

Асноўныя патрабаванні да ПС, прадстаўляемых на конкурс:

- праграмы павінны працаваць на IBM–сумяшчальных камп'ютэрах пад кіраваннем аперацыйных сістэм MS–DOS альбо Windows;
- у якасці асяроддзя для распрацоўкі праграм можна выкарыстоўваць любую мову праграміравання, а таксама любы з афіцыйна набытых школай пакетаў;
- праграмы павінны выкарыстоўваць стандартныя драйверы манітораў, прынтэраў, клавіятур і г.д. У выпадку выкарыстання нестандартных драйвераў яны павінны прадстаўляцца разам з праграмай;
- праграма павінна быць гатова да эксплуатацыі, г. зн. наяўнасць у праграме прадугледжаных, але не рэалізаваных, алгарытмаў недапушчальна.

Для ўдзелу ў конкурсе неабходна да 1 мая 2002 г. прыслаць праграмныя сродкі на магнітным носьбіце і наступную суправаджальную дакументацыю на паперы (можна таксама па электроннай пошце):

- заяўка;
- кіраўніцтва па запуску і эксплуатацыі праграмы;
- методыка выкарыстання праграмнага сродку ў навучальна–выхаваўчым працэсе (для праграмных сродкаў педагагічнага прызначэння).

Усім аўтарам і аўтарскім калектывам, якія прадставяць ПС на конкурс, гарантуецца непарушэнне аўтарскіх правоў. Праграмы не тыражуюцца і не перадаюцца пабочным асобам і арганізацыям, а пасля заканчэння конкурсу вяртаюцца аўтарам разам з магнітнымі носьбітамі.

Пераможцы конкурсу ўзнагароджваюцца дыпломамі. Колькасць дыпломаў вызначае журы конкурсу. Найбольш цікавыя ПС будуць зарэгістраваны ў галіновым фондзе праграмных сродкаў Міністэрства адукацыі і, па жаданню аўтараў, з імі можа быць заключаны дагавор на далейшае распаўсюджванне ПС.

Канчатковыя вынікі конкурсу будуць надрукаваны ў "Настаўніцкай газеце" ў маі 2002 года.

Матэрыялы накіроўваць: 220088, г.Мінск, вул. Захарава, 59, ГИАЦ МО РБ, аддзел інфарматыкі і інфармацыйных тэхналогій;

тэлефон: (017) 236–19–46

E–mail:fond@cacedu.unibel.by, komik@cacedu.unibel.by

**Форма заяўкі**

1. Прозвішча, імя, імя па бацьку распрацоўшчыка (аў).
2. Нумар і адрас школы (або іншай навучальнай установы), клас распрацоўшчыка (аў).
3. Хатні адрас, тэлефон, e–mail(пры наяўнасці) аднаго з распрацоўшчыкаў.
4. Прозвішча, імя, імя па бацьку настаўніка (кіраўніка гуртка), які аказаў дапамогу ў рабоце над ПС.
5. Назва ПС.
6. Прызначэнне ПС(коратка).
7. Тып і канфігурацыя ПЭВМ.
8. Мова праграміравання з указаннем версіі.
9. Аб'ём ПС (Кбайт).
10. Тэматычны накірунак, на які прадстаўляюцца ПС.

Цікаўным

# *Дзівосная гісторыя "Каменнага стала"*

***У геаграфічным энцыклапедычным слоўніку пра Чаткальскі хрыбет Заходняга Цянь-Шаня сказана, што ён абмяжоўвае з паўночнага захаду Ферганскую даліну і цягнецца па тэрыторыі Кыргызстана і Узбекістана на 200 кіламетраў. Яго схілы пакрыты хвойна-шыракалістым лесам, дзе жывуць такія рэдкія віды жывёл, як снежныя барсы і ўлары. Берагі ракі Цераксай захоўваюць старажытныя наскальныя малюнкі.***

Але галоўная славутасць Чаткальскіх гор – гэта радовішчы золата і поліметалаў, флюарыту і барыту, урану і вугалю. Яшчэ ў студэнцкія гады я праходзіў тут палявую геалагічную практыку. Намнога пазней, ужо на пасадзе геолага Сумсарскай геолагаразведачнай партыі, некалькі гадоў працаваў у Чаткальскіх гарах. Мала хто ведае, што менавіта гэтыя горы з'яўляюцца скарбніцай геалагічных помнікаў паўднёвага Кыргызстана. Адзін з іх называецца Каменны стол і ўяўляе сабой тыповы прыклад выветрывання розных па складу горных парод. Знаходзіцца ён у раёне ўрочышча Шэкаптар, дзе распрацоўвалася аднайменнае радовішча ўранавых руд.

Верхняя пліта Каменнага стала прадстаўлена гравелітамі, а "ножка" – чырвонымі гліністымі пясчанікамі неагенавага ўзросту. У выніку працэсаў выветрывання і размыву гліністых пясчанікаў ножка Каменнага стала змяншалася па плошчы, танчэла, а пад цяжарам пліты пароды ножкі станавіліся ўсё больш шчыльнымі і, такім чынам, усё цяжэй падвяргаліся працэсу выветрывання. У выніку атрымаўся Каменны стол, які стаў геалагічным помнікам прыроды.

У мясцовага насельніцтва ёсць цікавая легенда пра ўтварэнне Каменнага стала, якую я запісаў яшчэ ў 1966 годзе са слоў галоўнага геолага нашай партыі А.Б.Наталіна.

У вельмі далёкія часы ў кішлаку Шэкаптар жыў багаты і вельмі скварны бай, у якога расла адзіная прыгажуня-дачка. Так ужо сталася, што пакахала яна беднага чабана, які пасвіў баранаў яе бацькі. Пасватаўся чабан, але не захацеў багаты бай аддаваць сваю дачку за бедняка. Каханне ж юнака было вельмі моцным, і ён прыгразіў баю, што тайна ўкрадзе яго дачку, калі той не выдасць яе за яго замуж. І тады пайшоў бай на хітрасць. Ён знайшоў непадалёк ад кішлака ў гарах каменную пліту і прапанаваў чабану зрабіць з яе вясельны стол на адной ножцы, прычым бядняк павінен быў выразаць каменны стол з гэтай пліты толькі з дапамогай нажа.

"Калі стол будзе гатовы да святкавання, тады і згуляем вяселле", – урачыста паабяцаў бай. А сам сабе падумаў, што непісьменны бядняк не зможа правільна вызначыць цэнтр цяжару пліты, і яна, абрынуўшыся, раздушыць чабана. Такім чынам ён хацеў пазбавіцца ад настойлівага жаніха сваёй дачкі.

Шмат дзён і начэй капаў нажом зямлю чабан, марудна ішла яго праца, канца ёй не было відаць. І тады Алах, бачачы ўпартую працу бедняка і яго шчырае каханне да дзяўчыны, паслаў яму трох сваіх магутных памочнікаў – Сонца, Вецер і Дождж. Дружна ўзяліся яны разам за працу. Сонца сваёй высокай тэмпературай хутка разбурыла пароду пліты, ператварыўшы яе ў пыл і пясок. Вецер і дождж разносілі іх па ўсёй акрузе. А чабан падраўноўваў ножку будучага каменнага стала. Хутка стол быў гатовы. Вялікі і прыгожы, на адной ножцы, як хацеў таго бай, ён выдзяляўся сярод камяністых гор і быў бачны з кішлака, дзе чакала ўвесь гэты час свайго каханага прыгажуня-дачка багатага і скваплівага бая. Таму нічога не заставалася рабіць, як даць згоду на вяселле.

Шмат прыехала народу на гэтае вяселле, але ўсе змаглі размясціцца за вялізным сталом. Доўга гулялі госці, і калі ўсе раз'ехаліся па сваіх дамах, за сталом застаўся толькі адзін бай. Шкада яму стала кідаць недаедзеныя прысмакі, і ён згроб усё да сябе бліжэй. Стол пад цяжарам яды нахіліўся і прыдушыў хцівага бая да зямлі. Доўга ён клікаў людзей да сябе на дапамогу, але навокал ужо нікога не было. І толькі шакалы бегалі каля бая, вылі ўсю ноч і да раніцы зжэрлі яго разам з рэшткамі ежы. Шмат пазней пад нахіленым на бок вялізным каменным сталом, за якім ужо больш ніхто не баляваў, людзі знайшлі шкілет бая. А дачка бая і пастух дажылі да глыбокай старасці і выхавалі семярых дзяцей. Малодшы з іх і расказаў гэтую гісторыю сваім дзецям, а тыя – сваім, памінаючы заўсёды добрым словам сяброў чабана – Сонца, Вецер і Дождж.

**Альберт БАГДАСАРАЎ, прафесар.**



НА ЗДЫМКУ: перадгор'е Чаткальскіх гор, 1966 год.

**Фота геолага А.Б.НАТАЛЬІНА.**

Калектыў работнікаў Мазырскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя Н.К.Крупскай выказвае глыбокае спачуванне рэктару інстытута, доктару біялагічных навук, прафесару Валянціну Васільевічу Валетаву з прычыны напаткаўшага яго гора – смерці маці Наталлі Іванаўны ВАЛЕТАВАЙ.

**Галоўны рэдактар Аляксандр Гайдук**

ЗАСНАВАЛЬНІК — МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Рэгістрацыйны нумар 197.**

НАШ АДРАС:
220034, МІНСК, ВУЛІЦА ЗАХАРАВА, 42.
Тэлефоны прыёмнай рэдакцыі: 36-91-42; намеснікаў галоўнага рэдактара — 36-40-63; бухгалтэрыі — 36-53-22; рэкламы — 36-53-22; аддзелаў: школ — 36-43-62; праблем выхавання, навукі — 36-43-71, 36-90-63; інфармацыі — 36-43-71; ВНУ і тэхнікумаў — 36-44-25; прафтэхадукацыі, пісьмаў і сацыяльных праблем — 36-44-25; культуры — 36-41-55.
ФАКС: 36-53-22, e-mail:pm3403em1@belsonet.net

Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі (нумар пашпарта, дату выдачы, кім выдадзены пашпарт), асноўнае месца работы, зваротны адрас, нясуць адказнасць за дакладнасць фактаў і іншай інфармацыі.

Пісьмы, рукапісы, фотаздымкі і малюнкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Аб'явы могуць друкавацца не толькі на дзяржаўнай, але і на замежных мовах.

Меркаванне аўтараў публікацый не абавязкова адлюстроўвае пункт гледжання рэдакцыі.

Адказны дзяжурны
Святлана КІРСАНАВА.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку», 220013, Мінск, праспект Ф.Скарыны, 79.
Аб'ём — два друкаваныя аркушы. Спосаб друку — афсетны.
Фармат А2. Індэкс 63867.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12. Заказ № 368
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Падпісана да друку 23.1.2002 г. у 18.10
Тыраж 30.000 экзэмпляраў.